Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 24 (75). Вільня, Субота 12 Сакавіка 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## ГАНГРЭНА.

Нярaз ужо мы пісалі аб фальшывых беларускіх апекунох, цяпер, вяртаемся да гэтае справы, каб бараніць беларускі адраджэнскі рух ад усяго благога. Справа пас. Ваявудзкага выказала, што ня ён адзін вёў згубную для нас працу, а што яму памагалі іншыя.

Перадусім трэба заценіць, што маршалкоўскі суд, які адбыўся над п. Ваявудзкім і быў зроблены Палякамі, ня меў формы карнага суду, гэта—суд чэсьці, а дзеля таго некаторыя польскія газэты, ды нават і беларускія апраўдалі пасла Ваявудзкага. І праўда, тут гэтак справа пастаўлена, што як каму: каму і надта добра, а каму дык вельмі дрэнна тое, што тварыў п. Ваявудзкі. Мы, Беларусы, належым да апошніх, а знача ўсе чыны п. Ваявудзкага, якія былі кіраваны выключне проці нас—нам вельмі балючыя.

Глянем яшчэ раз на прысуд і матывы прысуду ў справе Ваявудзкага, каб лягчэй было адцеміць тыя чыны, якія нанесьлі Беларусам глыбокія раны.

Суд устанавіў, што п. Ваявудзкі, аж да студзеня 1924 г. быў для беларускіх справаў даверанай асобай II аддзелу генэральнага штабу ў нацыянальным рэфэраце. Паміж іншым даваў інфармацыі аб палітыцы Беларускага Пасольскага Клюбу ў Сойме і аб некатарых беларускіх паслох. Атрымоўваў з рэфэрату грошы чэскімі каронамі і выдаваў расьпіскі, якія падпісваў фальшым прозьвішчам. Суд устанавіў, што п. Ваявудзкі выдаваў гэтыя грошы на ўтрыманьне сваіх інфарматараў і на палітычную работу крэсавага гуртка польскай партыі „Вызваленьне“.

Некатарыя з даносаў п. Ваявудзкага зьмяшчаюць увагі, якія інфармуюць урад аб сакрэтных справах Беларускага Пасольскага Клюбу. І, як сцьверджана сьведкамі, пасол Ваявудзкі даваў характарыстыку аб п. Барану і Якавюку, з якіх, першы папаў за краты, а другі за межы Польшчы.

Цяпер ужо ясна, што п. Ваявудзкі будучы платным агентам вайсковай дэфэнзывы, выдаючы сакрэты Беларускага Пас. Кл., робячы даносы на беларускіх паслоў, гэтым самым вёў працу проці беларускага адраджэньня.

З усяе афэры Ваявудзкага, асабліва цікавяць нас два пытаньні: якім спосабам даведаўся Ваявудзкі аб сакрэтных справах Бел. Пас. Клюбу і чаму гэта яго бароніць п. Луцкевіч.

Перадусім ясна, што п. Ваявудзкі, хоць і дэфэнзыўшчык, але сам усюды ня лез, дык разумеецца, што сярод Беларускага Пасольскага Клюбу меў інфарматара.

Ці гэты інфарматар несьвядома, проста па свойму прастацтву, адчыняў доступ да беларускіх сэкрэтных спраў, ці гэты інфарматар перадаваў аб сэкрэтах Бел. Пас. Кл. трэцяй даверанай асобе, можа н'ат Беларусу, якая ўжо сама мела лучнасьць з Ваявудзкім, гадаць цяжка, бо безпасарэдніх даных ня маем. Але затое ёсьць пасярэднія даныя.

Вось п. Антоні Луцкевіч у сваей прэсе, яшчэ перад раскрыцьцём дэфэнзыўнай ролі Ваявудзкага ў беларускім руху, бараніў яго і пісаў, што ягоны кірунак ідзе разам з Ваявудзкім. Вось гэты факт дае пэўнае сьвятло на справу, бо мы ведаем, што даносіць можа толькі даверанaя асоба, толькі тая асоба, якая ўдае прыяцеля і такім чынам даведваецца аб сэкрэтных справах. Можна было-б думаць, што гэтая прыязьнь трымалася толькі дзякуючы няведаньню аднэй стараны аб юдашоўстве другой, і як толькі прышла першая вестка аб дэфэнзыўнай ролі Ваявудзкага ў беларускім руху, адна шчырая беларуская старана адразу зразумела свой блуд і выраклася няпрошанага прыяцеля. Але факты гавораць іначай. П. Антоні Луцкевіч не чакаючы пастановы маршалкоўскага суду, у сваей газэце пачаў бяліць Ваявудзкага. Дык бачым, што прыязьнь меж гэтымі двумя асобамі апіралася не на наіўнасьці Луцкевіча, а на поўнай сьведамасьці той бруднай работы, якую вёў Ваявудзкі. Як адзін, так і другі прыяцель цяпер на волі, а тыя што выконвалі сэкрэтныя пастановы—ўжо за кратамі...

Дык вось, са ўсяго гэтага бачым, што той, хто найболей распінаўся за Беларускі Народ,—за чэскія кароны, цераз пасярэдніцтва дэфэнзыўшчыка Ваявудзкага, прадаваў інтарэсы гэтага народу вайсковай дэфэнзыве. Канчаючы аб гэтым, хочам перайсьці на новы пункт працы Ваявудзкага і заглянуць у той асяродак, які называўся „Вызваленьне“. Мы, Беларусы, добра памятаем, як у часе выбараў, шчодра сыпалі абяцанкі польскія партыі, а сярод іх, ці не найболей радыкальнае лявіцовае „Вызваленьне“ і што-ж мы бачым? Сёньня мы бачым, што ўсе тыя абяцанкі рабіліся толькі дзеля таго, каб адурманіць нас, каб пазбавіўшы нас прадстаўніцтва, ужо бяз ніякае перашкоды скасаваць нашае юрыдычнае істнаваньне і выкарыстоўваць эканамічна... І ўсё гэта рабілася за дзяржаўныя грошы... Дык ці-ж не памылкаю было тое, што частка сялянства аддало свае галасы гэтаму „Вызваленьню“ і выбрала дэфэнзыўшчыка бараніць нашыя інтарэсы. На памылках мінуўшчыны чалавек вучыцца, а дзеля гэтага самага прымем гэта горача да сэрца, каб мець на прыкмеце ў будучыне, каб мець на прыкмеце ня толькі польскіх ваўкоў у авечай шкуры, але-ж і сваіх авечак, якія папалі на „спажыву“ гэтым ваўкам, а цяпер хваляць гэтых ваўкоў і бароняць іхняга гонару.

Піліп Нікель.

## Карэспандэнцыя з Радавай Беларусі.

(Працяг).

Што тычыць разьвіцця коопэрацыі на Беларусі, дык у гэтым кірунку асягнуты важкія рэзультаты. Коопэратыўны рух на Беларусі яшчэ малады: — спажывецкая коопэрацыя пачала разьвівацца з 1917 і вяскова-гаспадарчая з 1920 г. За гэтыя некалькі гадоў коопэратыўны рух гэтак пашырыўся, што пад канчатак 1925 г. было ўжо аб'яднана ў спажывецкай коопэрацыі 25,6 проц. усяго насяленьня і ў вяскова-гаспадарчай — 18 проц. усіх сялянскіх гаспадарак.

З галіны вяскова-гаспадарчай коопэрацыі найболей пашырана крэдытная коопэрацыя, што паказвае на патрэбнасьць сялянскае гаспадаркі ў крэдытнай дапамозе.

У Радавай Беларусі значна разьвіта кустарная прамысловасьць. Усяго налічваецца 44.892 кустароў і рамесьлянікаў (у два з паловаю разы болей як работнікаў, занятых у фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах). У сучаснасьці арганізавана 140 працоўных дружынаў кустарнай вытворчасьці, якія маюць пакуль-што толькі 1320 сябраў. Але-ж бязсумліўна, што гэты род працоўнага аб'яднаньня будзе з часам пашырацца і павялічвацца, дзеля таго, што кустарная прамысловасьць, пры сучасных эканамічных умовах, мае ўсе магчымасьці на істнаваньне і разьвіцьцё.

Увесь фінансавы плян Радавай Беларусі распадаецца на тры часткі: саюзны бюджэт, рэспубліканскі і мясцовы. Усяго за 1923/24 г. павінна было пасупіць у дзяржаўную касу па ўсім часткам бюджэту 49.660 тысяч руб. Паступіла: 48.886 тысяч руб. Плян выпаўніўся па частцы прыходу на 98,4 проц. Увесь прыход па часткам бюджэту, у працэнтных адносінах раскладаецца гэтакім парадкам: па саюзнаму 35,8 проц., па рэспубліканскаму 20,2 проц. і па мясцоваму, куды уваходзіць утрыманьне народнай асьветы. лякарская і вэтэрынарная дапамога, палепшаньне вясковай гаспадаркі, утрыманьне паліцыі, праўных ворганоў, шляхаў камунікацыі і інш. — усяго на ўсяго — 44 проц. Гэтак нераўнамерна раскладаюцца народныя сродкі!

Галоўныя крыніцы даходаў усяго бюджэту Радавай Беларусі — беспасярэднія і ўкосныя падаткі; яны складаюць 78 проц. усяго бюджэту. Падатковыя даходы з дзяржаўным крэдытам складаюць 22 проц. Па саюзнаму бюджэту даход ад падаткаў выносіць 88 проц. і па рэспубліканскаму — 61,1 проц.

У сваёй расходнай частцы бюджэт Рад. Беларусі прадстаўляе наступны страшэнны абраз: усяго на ўтрыманьне агульнасаюзных установаў ідзе 14.172 тыс. руб., што складае 52,3 проц. усіх выдаткаў адзінага дзяржаўнага бюджэту Рад. Беларусі. Ненармальнасьць гэтага палажэньня відавочна. Асабліва, калі ўзяць пад увагу што 81 проц. усіх выдаткаў па агульна-саюзнаму бюджэту ідзе на агульна-саюзныя патрэбы, нічога супольнага ня маючы з напра-

* * *

Росткі, ростачкі,
вы, мае ляпёстачкі,
мо' захуценька вы праглянулі,
неяк страшна мне — каб ня зьвянулі.
Абтуліў я вас машком цёпленькім,
машком цёпленькім назьбіраным тут
па лугах, лясох, стрэхах вёсачкаў...
на аздобу ўсё маіх ростачкаў,
маіх ростачкаў і ляпёстачкаў.
Мо' загляне хто, дзе вы схованы
і пакажа вам косы сонейка;
пакланецеся яму нізенька,
мае ростачкі і ляпёстачкі...
А як стопча вас, мае кволенькі,
мае ростачкі і ляпёстачкі,
прыпаецеся сваім каранькам,
сваім каранькам у зямелькі глуб,
у зямелькі глуб моцна-моцненька...
Мо' з карэньчыка адрасьцецца дуб.

**Фр. Грышкевіч.**

---

ваю і рэгуляваньнем беларускай народнай гаспадаркі. І гэта ў той час, калі за адсутнасьцю сродкаў урад Рад. Беларусі ня робіць ніякіх спробаў да направы зьнішчанай вайною мясцовай гаспадаркі, памяньшае школьнае будаўніцтва, якое і бяз гэтага на Беларусі ў самым закінутым палажэньні — на адну тысячу жыхарства прыходзіцца ўсяго толькі 326 пісьменных, у той час, як, напрыклад, у самай Расеі 434; непамерна паменьшваюць колькасьць раней паўстаўшых дзіцячых садоў, хат-чытальняў, бібліятэк, сярэдніх і ніжэйшых прафэсыянальных школ і г. д. Непрапарцыянальна вялікшы ўдзел Радавай Беларусі ў агульна-саюзным бюджэце, пры цяжкім эканамічным палажэньні Краю, з вялікай лічбай безработных, змушаюць нават і беларускіх камуністых стаць у апазыцыю да цэнтральнага „усесаюзнага" ўраду, што мела месца, напр. на апошняй сэсіі Ўсесаюзнага Цэнтральнага Камітэту.

Аб крытычных адносінах да бальшавіцкай „камуністычнай беларусізацыі" болей сьвядомых элемэнтаў працоўнага народу і гаварыць не прыходзіцца, гэта агульна ведамы факт. Гурток сялянскай моладзі выдаваў на беларускай мове свой орган „Наша Слова", у якім прыводзілася асноўная думка, што Беларусь павінна быць Вольнай і Незалежнай Рэспублікай, у натуральных сваіх этнаграфічных межах, што ўлада павінна выходзіць з гушчы народа, павінна быць свабодна выбранай, а не прымусовай, антынароднай, што сялянства павінна арганізавацца ў сваім сялянскім саюзе, каб адваяваць сабе лепшую шчасьлівую будучыну.

Сялянская Беларусь прабуджаецца да новага жыцьця. Расьце і пашыраецца актыўнасьць і самадзейнасьць усіх працоўных групаў жыхарства.

Бальшавіцкая дыктатура зьяўляецца найбольшай перашкодаю на шляху да зьдзейсьненьня гаспадарчага і культурнага адраджэньня Беларусі. Гэта беларуская вёска зразумела і ступіла на шлях актыўнай барацьбы. А там — пад свабодным сьцягам гаспадарчай і палітычнай дэмакрацыі заб'ецца поўным ручаём новае, маладое жыцьцё, вольнай і аб'яднанай Беларусі, рэспублікі працоўнага народу.

(Канчатак).

# СЛОВА І ЧЫН.

Калі міністар Дабруцкі разгаварыўся і сыпаў нам радыкальныя абяцанкі аб тым, што быццам скране з мёртвага пункту і вырашыць на карысьць Беларусам школьнае пытаньне, дык мы ўжо тагды як сьлед зважылі яго словы на сваю вагу і зналі ім цану. Калі пры віленскай куратэрыі арганізавалася камісія па справам школы нацыянальных меншасьцяў і калі заклікаліся на яе паседжаньне беларускія культурныя дзеячы, дык ужо тагды мы разумелі справу іменна гэтак як сёньня можа канстатаваць фактам.

Мы разумелі, што салодкія словы п. мін. Дабруцкага пускаюцца проста, як кажа прыказка, на вей вецер, а што гарачая і пасьпешная праца камісіі ў справах школы нацыянальных меншасьцяў пры віленскай куратэрыі кіруецца, ня дзеля направы школьнага пытаньня на карысьць Беларусам, а вышукваецца спосаб, каб дарэшты зьліквідаваць беларускае школьніцтва ніжэйшае, ды каб налажыць сваю цяжкую руку на беларускія сярэднія школы.

Усе гэтыя пачынаньні ў лучнасьці з тым, што быццам ідзе нейкая праца пры куратэрыі, дзе перакладаюцца на беларускую мову школьныя падручнікі для беларускіх школаў, ёсьць новы этап далейшай палёнізацыі Беларусаў не пазбаўлены і палітыкі, ці прасьцей кажучы, ігры ў палітыку.

Перавыбары ў Сойм і Сэнат, калі датрымаецца і ня зломіцца канстытуцыя, што ў нас не навіна, не за гарамі. Ясна, што трэба неякі найсьці спосаб і заагітаваць беларускае сялянства на свой бок. Дык вось, у гэтых мэтах і робіцца нейкі рух, які ня рухаецца, або стаіць на месцы, або паўзе ў адваротны бок—у асяродак палянізацыі.

Калі гэтакімі пухавымі, ветранымі абяцанкамі можна было заманіць у сваі сеткі беларускае сялянства ў 1922 годзе, калі яно $^2/_3$ сваіх галасоў аддало польскім партыям, як дэфэнзыўнаму „Вызваленьню" і шавіністычным ППС-ам, дык цяпер, пасьля пяцігодавага дасьледу—гэтыя дозы новых „маральна - санацыйных" абяцанак нас не адурманяць і не заманяць, мы навучыліся „хапаць на ляту" ня што іншае, а вартасьць польскага ўраду, а дзеля гэтага сьцьвярджаем, што кожны, хоць ня чынны, а толькі на словах „учынак" ці то польскага ўраду, ці то рэпрэзэнтатараў яго на мясцох, мае мэту спалянізаваць нас, замест дапамогі пашырэньня і ўмацаваньня беларускай нацыянальнай культуры. А дзеля гэтага самога, як ненармальны крок зьбівае са сьцежкі і заводзіць у балота, так і гэтыя ненармальнасьці ўраду пашыраюць тую працу паміж уладай і беларускім народам, якая запачаткавалася пры паўстаньні дзяржаўнага сужыцьця двух братніх народаў пад польскаю страхою.

Мы пераканаліся, што слова і чын польскай улады ня мае нічога супольнага і што, калі слова пускае ў паветра пусты гук, дык чын б'е мэтна па жывому беларускаму арганізму.

Усе вышэй пералічаныя ўвагі сьцьвярджаем наступным фактам: 24 г. сакавіка віленскі куратар п. Рыневіч выдаў загад, якім уводзіцца ў першыя тры клясы прыватных гімназіяў з выкладовай няпольскай мовай, — навучаньне польскай гісторыі ў польскай мове. Дык вось рэзультат усіх тых абяцанак, якія гэтак шчодра сыпаў радыкальны міністар п. Добруцкі.

**Тамаш Пігонь.**

# З жыцьця пад Польшчай.

## Зьмена выбарнага закону.

У соймавай канстытуцыйнай камісіі яшчэ ўсё шукаюць спосабу пазбавіцца няпольскага прадстаўніцтва ў Сойм і Сэнат пры новых выбарах. Ужо ў новай рэдакцыі пасол Гломбінскі запрапанаваў гэтакі артыкул „лічбу паслоў зьменшыць да 300, а ў тым 250 па выбарах з акругоў, а 50 па дзяржаўнаму сьпіску. Лічба сэнатараў павінна быць $^1/_4$ часткай паслоў. Колькасьць паслоў у мястовых акругах Варшавы, Кракова, Пазнані, Львова і Вільні астаецца бяз зьмены, у іншых акругах зьменшыць у гэтакі спосаб, каб на кожнага пасла прыпадала 25 тысяч галасоў пры папярэдніх выбарах і 80 тысяч на кожнага сэнатара. Ў пэўнай частцы Львоўскага ваяводзтва, а таксама на ўсім абшары Станіславоўскага, Тарнапольскага, Валынскага, Палескага, Навагрудзкага ваяводзтваў выбары павінна адбывацца з падзелам на дзьве курыі: польскую і няпольскую, але гэты падзел павінны належаць ад Прэзыдэнта. Гэтая прапазыцыя будзе разглядацца на наступным паседжаньні камісіі, а цяпер будуць абгавораны соймавымі клюбамі.

## Пастановы Рады Міністраў.

7 г. сакавіка на паседжаньні Рады Міністраў пастаноўлена зацьвярдзіць праект зьмены распараджэньня п. Прэзыдэнта ў справе Праўнай Рады і пастаноўлена стварыць праўнае бюро пры старшыні Рады Міністраў.

Рада Міністраў зацьвердзіла праект аб утварэньні дзяржаўнай самаўрадавай Рады, а таксама праект распараджэньня п. Прэзыдэнта аб упарадкаваньні юрыдычнага палажэньня ўсходніх ваяводзтваў. Той праект высьвяе, якія з даўнейшых уставаў і распараджэньняў маюць цяпер абавязковую моц.

Дык гэтакім чынам ізноў дзяржаўны польскі апарат да сваіх бязлікіх установаў далучыць яшчэ дзьве ўстановы: бюро і раду, але лік безработных за тыдзень ізноў павялічыўся на 646 асоб і дасягае лічбы ў Вільні да 5300 чалавек, а на тэрыторыі ўсей дзяржавы 212,948 асобаў.

## Справа зьмяншэньня цэнаў на цукер.

Рада Міністраў на паседжаньні 7 г. сакавіка выслухаўшы рожныя прапазыцыі, рэфэраты і пастанавіла тае цаны на цукер, якая ўстаноўлена бяз ведама ўраду не зацьвярджаць, а загадаць аж тром міністрам — скарбу, земляробства і гандлю і прамысловасьці, каб яны ў паразуменьні паміж сабою выдалі распараджэньне панізіць цану цукру аж(!) на $2^1/_2$ грошы за кілё.

## Урачыстае адчыненьне Фінансавай Рады.

15 ці 20 г. сакавіка міністар скарбу мае адчыніць фінансавую раду, пры гэтым агалосіць экспозэ сучаснай фінансавай сытуацыі і падасьць на разгляд фінансавай рады праект новых падатковых установаў.

## Забастоўка ў Лодзі.

У Лодзі распачалася забастоўка работнікаў мануфактурных фабрык, якія дамагаюцца павышэньня заработнай платы. Усе фабрыкі Лодзі і ўсе акругі спыніліся. Кіруюць забастоўкаю паслы Шчэркоўскі (PPS) і Вашкевіч (NPR), якія асабіста хадзілі па фабрыках і заклікалі работнікаў кідаць працу згодна пастановы фабрычнага камітэту.

---

# Маленькі фэльетон.

## У Беларускім Царстве.

Калі я ўвайшоў у вагон цягніка на станцыі Ваўкавыск, каб ехаць у Вільню, дык там ужо сядзела некалькі незнаёмых мне асобаў, сярод якіх асабліва выдзяляліся: адзін мужчына ў пэнснэ і другі хлапец жыдоўскага тыпу. У гэтакіх выпадках агульнасьць інтарэсаў неяк надта хутка зьбліжае да сябе людзей: незнаёмыя людзі хутка ўходзяць адзін да аднаго ў давернась і часамі шырока раскрываюць свае сэрцы і душы ды поўна выяўляюць іх пачуцьцё.

Я і мае падарожнікі, пэўна ня робім вынятнаў з натуры гэтых прыродных законаў, бо не пасьпеў я на'т, як сьлед, сагрэцца, як мой сусед запытаўся, гаворачы папольску: куды я еду і па што?

Нядоўга думаючы, каб задаваліць яго пытлівасьць я адказаў, што еду ў Беларускае Царства.

— Як, — раскрыўшы свае вочы шырэй пэнснэ, з найвялікшым зьдзіўленьнем, гукнуў ён, — дзе яно, якім парадкам і калі яно стварылася?

А трэба заценіць, што ў майго суседа, які, як пасьля даведаўся, называўся Альбэртам, ляжала на каленях польская газэта, здаецца з гатунку „Dziennika Wilenskiego".

Сьціснуўшы плячыма, махнуўшы рукамі, пан Альбэрт уставіўшы на мяне свае лупатыя, але сьлепаватыя вочы, здаецца так зьядае мяне... Заўсёды бывае гэтак, што ў кароткабачнага чалавека вочы сядзяць неяк на выкаце, напрыклад у польскіх эндэкаў, якія шырока глядзяць ды блізка бачаць...

— Ну, кажы дзе-ж гэта яно, Беларускае Царства?

У гэты самы момант, жыдок, які называўся Гэршам, прыйшоў мне з дапамогай, бо зьвярнуўшыся да пана Альбэрта, замест адказу запытаўся:

— Ці-ж пан ня ведаеш, дзе — Беларускае Царства?

— А скуль я магу ведаць, калі вось газэта піша, што ніякіх Беларусаў, (а ня толькі іх царства) няма. А да гэтага, — кажа пан Альбэрт, — быў я ў некалькіх вёсках, дык там скрозь назовы вёсак, прозьвішчы гаспадароў на хатах напісаны толькі папольску, школы толькі польскія!...

Жыдок Гэрш засьмяяўся, ды кажа: — Хоць пан ужо пажылых гадоў, хоць пан, як бачу, — разумны чалавек, але-ж здаецца па геаграфіі, дык — анальфабэт.

Пан Альбэрт тут ужо нават заззлаваўся, але выхапіўшы з кішані нейкую карту стаў прыглядацца да яе, тыкаць пальцам нечага шукаючы, а калі падняў вочы, дык ізноў у напружанасьці нэрваў і ўсё пры непакінуўшым яго задзіўленьні, кажа:

— Нічога ня ведаю... Для мяне, Беларускае Царства — цёмная, загадковая, фантастычная рэч... Нічога ня ведаю!...

Прызнацца ня ведаю, што было-б і як я пану Альбэрту прадставіў-бы сутнасьць Беларускага Царства, але-ж Гэрш, на тое ён і Жыд, забег мне наперад, ды ізноў запытаўся ў пана Альбэрта: — А пан ведаеш дзе — Жыдоўскае Царства?

— Гэта глупства, — кажа пан Альбэрт, — дык я дакладна ведаю, у Палестыне!...

Пры гэтым Гэрш ізноў засьмяяўся ды адказвае:

— Не, Палестына, гэта — ангельская калёнія, а жыдоўскае царства, гэтак сама, як і Беларускае — у сэрцы кожнага чалавека, прыналежнага да гэтых нацыянальнасьцей!

— Разумеецца, — кажу ўжо я, што — гэтае Беларускае Царства, якое істнуе ў душы, у сэрцы, у розуме і наагул ува ўсім арганізме кожнага Беларуса, мае свае, гэтак кажучы, вонкавыя праявы, а калі пан толькі хочаш, дык я, там, дзе мы апынімся, пакажу іх пану.

— — — — — — — — — — — —

